*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 31 (243)

2 жніўня 1995 г.

Кошт — 500 рублёў



**ГУТАРКА З ПАЎЛАМ ЗНАЎЦОМ**
*Стар. 3.*

**БЕЛАРУСЬ У КАНАДСКІМ АТЛАСЕ**
*Стар. 4.*

## ПОСТУП ТЫДНЯ

❍ **27 ліпеня наша краіна адзначыла свой Дзень Незалежнасці**

❍ ***Па звестках Галоўнага ўпраўлення вышэйшай адукацыі Беларусі,*** *на сярэдзіну ліпеня ў прыёмныя камісіі вышэйшых навучальных установ рэспублікі было пададзена 38 тысяч заяў прыблізна на 22 тысячы студэнцкіх месцаў. Самыя папулярныя спецыяльнасці ў абітурыентаў традыцыйныя — міжнародныя адносіны, правазнаўства, замежныя мовы, медыцына.*

❍ **На 670 студэнцкіх месцаў у Брэсцкім педуніверсітэце прэтэндуюць 1611 абітурыентаў,** што ў сярэднім складае 2,4 чалавекі на адно месца. Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца спецыяльнасці, звязаныя з вывучэннем беларускай мовы, літаратуры, гісторыі і культуры, на якія конкурс вышэйшы за сярэдні па ўстанове. Больш за 75% абітурыентаў вырашылі здаваць на экзаменах беларускую мову і літаратуру, а не мову суседняй дзяржавы, хоць яна ў нас на сённяшні дзень і лічыцца другой дзяржаўнай.

❍ ***У Менску ў памяшканні гасцёўні Уладзіслава Галубка, што ў Траецкім прадмесці, адбылося*** *адкрыццё унікальнай выставы, сярод экспанатаў якой — раяль Ларысы Александроўскай, цымбалы Іосіфа Жыновіча, народныя інструменты, выкананыя вядомымі беларускімі майстрамі.*

❍ **Рашэннем Нацыянальнага банка рэспублікі з 1 жніўня прыпыняецца** выпуск разліковых білетаў вартасцю ў 10 і 25 рублёў, і гэтыя купюры будуць выведзены з грашовага абароту. Цэны на вагавыя вырабы і паслугі будуць акруглены да 50 рублёў, а на штучныя тавары — дыферэнцыраваны.

❍ ***Кабінет Міністраў прыняў пастанову,*** *згодна з якой будзе заключана пагадненне паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Расійскай Федэрацыі аб узаемным прызнанні і эквівалентнасці дакументаў аб адукацыі і вучоных званнях. Аналагічнае пагадненне будзе падпісана і з урадам Украіны.*

❍ **Група дэпутатаў Менскага гарсавета выступіла з ініцыятывай** аб правядзенні сёлетняй восенню агульнагарадскога рэферэндуму. Сярод прапануемых да абмеркавання жыхарамі сталіцы пытанняў — выбранне мэра горада і неабходнасць надання Менску афіцыйнага статуса сталіцы дзяржавы.

❍ ***Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф Скарыны наладзіў*** *кампутарную сувязь з вышэйшай школай у нямецкім горадзе Кілі. У студэнтаў і выкладчыкаў з'явіцца магчымасць пацікавіцца нават фондамі бібліятэкі кангрэса ЗША.*



*Малюнак Алега Карповіча.*




З 11 па 17 ліпеня ў Магілёве праходзіў трэці Міжнародны фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа». Падрабязнасці пра фестываль чытайце ў бліжэйшых нумарах «Нашага слова».
**На здымку:** Гімн «Магутны Божа» выконвае зводны хор. **Фота А.Ліціна.**

## *Адзначаны Дзень незалежнасці Беларусі*

27 ліпеня да помніка Янку Купалу ў Менску прыйшлі людзі адзначыць сваё нацыянальнае свята. Пляц не ўмяшчаў усіх, хто сабраўся . Над натоўпам лунalі бел-чырвона-белыя сцягі. Адбыўся мітынг. Выступалі Н. Гілевіч, Л. Баршчэўскі, П. Знавец , Я. Запруднік, З. Пазьняк ... Прамаўляў і прадстаўнік крымскіх татараў. Успомнілі і пра гераічны чачэнскі народ

Мудрыя словы З Пазьняка гучалі прароча. Для аптымізму пакуль няма падстаў, але адчувалася вера ў лепшае. Лідэр БНФ заклікаў да вялікай адраджэнскай работы.

Пасля мітынгу адбыўся канцэрт. Добра, што не было вялікай сутычкі з міліцыяй. Але гаварылі, што напалі на некалькіх чалавек, якія ішлі пад нацыянальным сцягам.

А ўвечары свята віталі салютам.

Генадзь КАЖАМЯКІН.

***З рэдакцыйнай пошты***

Шаноўны спадар рэдактар!

Дазвольце ад імя Міжнароднага камітэта беларусістаў выказаць Вам, а таксама аўтару матэрыялаў сп. Ірыне Крэнь шчырую падзяку за найбольш аб'ектыўнае і шырокае (калі ўзяць беларускія сродкі масавай інфармацыі) асвятленне работы II Міжнароднага кангрэса беларусістаў, яго складанай праблематыкі міжнацыянальнага, міжканфесійнага і міжкультурнага ўзаемадзеяння беларусаў з іншымі, найперш суседнімі народамі.

**Адам МАЛЬДЗІС,**
**прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

## ДЗЕ І ШТО?

### Якая сацыял-дэмакратыя адраджаецца?

25 ліпеня ў Менску адбылася сустрэча кіраўнікоў трох палітычных партый: Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Партыі народнай згоды ды Партыі ўсебеларускага адзінства і згоды.

Вынікам спаткання стала падпісанне дамовы аб стварэнні Сацыял-дэмакратычнага саюза — структуры, якая будзе каардынаваць дзейнасць згаданых партый у сферах фармавання грамадскай думкі, вылучэння кандыдатаў у органы ўлады, супрацоўніцтве з прафсаюзнымі арганізацыямі і іншых.

«Адраджаючы праз сто год сацыял-дэмакратыю ў Беларусі, мы глядзім на яе як на спосаб самаарганізацыі людзей працы», — сказана ў заяве Каардынацыйнага камітэта СДС.

Тое, што апошнімі беларускімі сацыял-дэмакратамі ў гэтай заяве названыя сябры не Беларускай сялянска-работніцкай Грамады, а Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (пазней — РКП(б) — ВКП(б) — КПСС), і тое, што нарада адбылася ў сталічным Доме-музеі І з'езда РСДРП, дае падставы для розных меркаванняў, але толькі час пакажа сапраўдныя палітычныя схільнасці ды нацыянальную скіраванасць новай палітычнай структуры.

**У.П.**

---

27 ліпеня ў Ракуцёўшчыне, дзе знаходзіцца філія музея Максіма Багдановіча, адбылося свята, якое зрабілася ўжо традыцыйным. Перад гледачамі выступілі фальклорныя калектывы Маладзечаншчыны, беларускія паэты, супрацоўнікі музея М. Багдановіча. Адбылося і адкрыццё новай экспазіцыі музея. Ракуцёўшчынскія святы прымеркаваны да Дня незалежнасці Беларусі.

Больш падрабязны рэпартаж пра гэту падзею чытайце ў наступным нумары «Нашага слова».

Л.Ц.

*Але!*

# Мову навучання павінна выбіраць Беларускае Адраджэнне!

У нумары газеты «Звязда» за 18 ліпеня г.г. з'явілася актуальнае інтэрв'ю, якое ўзяла журналістка Алена Ляўковіч у галоўнага інспектара Галоўнага ўпраўлення агульнай і сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі Тамары Саўчук. Матэрыял меў красамоўную назву — «Мову навучання выбіраюць вучні. Дакладней — іх бацькі».

Дзякуй нашай калянжанцы за тое, што дапамагла нам дазнацца, чаго жадае згаданае міністэрства і як усё будзе цяпер, пасля рэферэндуму, з праблемай, якая прыкладна гучыць так: «Беларуска-расійскія моўныя адносіны-суадносіны ў выкладанні прадметаў і дысцыплін у пачатковай ды сярэдняй школе суверэннай Рэспублікі Беларусь».

Вось, напрыклад, як Тамара Мікалаеўна адказвае на пытанне аб камплектаванні класаў у школах буйных гарадоў, дзе меншасць бацькоў выкажацца за беларускую мову навучання: «**Такая сітуацыя намі прадугледжана. У вялікіх гарадах, дзе школы знаходзяцца недалёка адна ад адной, адна школа можа быць рускамоўная, другая — беларускамоўная. Вельмі хочацца, каб мясцовыя органы ўлады іменна так і вырашылі гэта пытанне**».

Заўважылі, як няпэўна, як асцярожненька адказвае чыноўніца, чыя пасада ў сваёй назве мае два эпітэты «галоўны» (галоўны Інспектар Галоўнага ўпраўлення). Адна школа «можа быць» такая, другая — гэткая. А можа (зусім нават магчыма) і не быць? Хочацца, канешне, Тамары Мікалаеўне, каб «іменна так» зрабілі на месцы рэгіянальныя органы ўлады. Але ж яны тут, ого-го-го, свайго не ўпусцяць і «никакого белорусского языка в школы не допустят».

А чаму так адбудзецца? А таму, што бацькі пажадаюць, тое і зробяць. А зробяць яны так, як ім неафіцыйна «параяць настаўнікі і дырэктары школ, якім даўно «зверху» спушчана адпаведная дырэктыва.

«Дэмакратыя» бацькоўская выбару ў гэтай справе наогул уражвае. Як і ўражваюць магчымасці згаданага міністэрства. Аказваецца, калі дзеці ў адным класе пажадаюць вучыцца хто на расійскай, хто на беларускай, хто на польскай мовах (па логіцы — на ўкраінскай, на яўрэйскай, на татарскай, на летувіскай і г.д.), то ў гэткіх класах выкладанне прадметаў рэкамендуецца весці на беларускай мове, але абавязкова будзе вывучацца расійская, а па жаданні, польская, украінская ці яўрэйская. Цікава, адкуль у адну школу прыйдуць польскія, украінскія ці яўрэйскія педагогі-моваэнаўцы? Можа выпішам такіх з Украіны, Польшчы або Ізраіля за валюту?

Смешны рэферэндум. Смешная міністэрская калгатня. Было б, мусіць, яшчэ й не так смешна, каб не гэтак балела на сэрцы праз падобны смех. Дзе ж ты ва ўсім гэтым тлуме, сама Беларуская Дзяржава? Ці табе ўжо і Адраджэнне беларускага народа не патрэбна? А мо ты задумала ўласнае самагубства?

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

*Наш каментар*

# Мы жывём, як на вулкане, што вось-вось выкіне палаючую магму

У масавых газетах друкуюцца вынікі сацыялагічнага апытання ў чэрвені 1995 г. **1414 чалавек** па агульнанацыянальнай рэпрэзентатыўнай выбарцы. Яго правёў Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) пры садзейнічанні Міжнароднага цэнтра прыватнага прадпрымальніцтва (СІРЕ ЗША).

Уражвае, што пры значным пагаршэнні жыцця нашых суграмадзян (64,8 % з апытаных), чые спадзяванні на паляпшэнне дабрабыту на сёлетні год не спраўдзіліся, у людскія душы запоўз страх за ўласнае жыццё ды жыцці родных-блізкіх.

**Зразумела, 53,4 працэнта** даволі абгрунтавана назвалі сярод таго, што палохае, — экалагічную катастрофу. Нам хапіла, каб усё зразумець, аднаго Чарнобыля. Але ж далей па ходу апытання ідзе Марс — бог вайны. Такім чынам, **грамадзянскай вайны на Беларусі баяцца 47 працэнтаў, вайны з іншымі краінамі — 23,7, міжнацыянальных канфліктаў — 20,1 працэнта нашых землякоў.**

Пра што ж сведчаць апошнія тры лічбы? А больш дакладна — першая і трэцяя?

Ды пра тое, што ў грамадстве намеціўся жорстка палітызаваны раскол. Па прыкмеце сацыяльнай — на адным полюсе тыя, хто вельмі хутка ўзбагачаецца, на другім — хто вельмі хутка пераўтвараецца ў жабракоў, пры адсутнасці так званага «буфернага», сярэдняга, класа. Ну, а боязь міжнацыянальных канфліктаў — гэта ўжо спрадчэнне непісьменнай і бяздумнай нацыянальнай палітыкі, вынікам якой стаў знакаміты на ўсю Еўропу рэферэндум, які нас вядзе ў каланіяльную залежнасць. Здаём эканоміку на рабаванне Расіі. Здаём родная слова на вынішчэнне расійскай мовай. Здаём беларускую спрадвечную сімволіку на замену яе «стара-новай» бэсэсэраўскай. Здаём толькі што адноўленую гісторыю Беларускай Дзяржавы на карысць русафільства і саюзафільства.

Вось і задумаліся людзі: ці не замнога здаём? Ці не знойдуцца тыя, хто пачне актыўна супрацьстаяць неакаланізатарскаму замаху на духоўнасць карэннай нацыі? А раптам згарбузуюць свае сілы і пачнуць падымацца з каленяў такім чынам, як гэта паспрабавалі ў свой час зрабіць Тадэвуш Касцюшка ды Кастусь Каліноўскі.

Што ж, гэта добра, калі грамадства задумваецца аб уласным лёсе і робіць выбар паміж дабром і злом, праўдай і фальшу, свабодай і рабствам, рэформамі і вайной. Зразумела, — робіць пазітыўны выбар.



## Блаславі, Божа!



Зянон Пазьняк і Галіна Вашчанка пажаніліся. Шлюб яны бралі ў Магілёве, у касцёле святога Станіслава.

Калектыў рэдакцыі нашай газеты зычыць дарагім Галіне і Зянону шчаслівага сямейнага жыцця ды просіць Бога блаславіць сужонцаў.

*У газетах*

## Ахвяры Смаргонскага гета не забытыя

«...На сцяне Ашчадбанка ў Смаргоні з'явілася мемарыяльная дошка з шасцікутнай зоркай і надпісам на дзвюх мовах: яўрэйскай і беларускай. Яна — сімвал памяці яўрэяў, якія загінулі ў гады вайны 1941-1945 гадоў у Смаргонскім гета... Дарэчы, напярэдадні юбілею Перамогі і вызвалення Рэспублікі Беларусь раённая газета «Светлы шлях» стала гістарычным дакументам. На яе старонках былі змешчаны прозвішчы яўрэяў, якія загінулі ў гета...»

## Паломніцтва ў Будслаў

«... З усёй Беларусі прыйшлі ў першыя дні ліпеня вернікі-каталікі да цудадзейнага абраза Маці Божай Будслаўскай. Упершыню пабывалі там і астравецкія дзеці ўзростам ад 12 да 16 гадоў — парафіяне мясцовага касцёла Святой Троіцы. Маршрут «Астравец—Жодзішкі—Іжа—Касцяневічы—Будслаў» працягам у 133 км юныя паломнікі прайшлі пешшу...»

## Што пілі ў Аўцюках з івянецкіх кубкаў?

«... Незвычайныя прызы-кубкі з лаканічнай назвай «Напіся не абліся» вырабілі на Івянецкім заводзе мастацкай керамікі, што ў Валожынскім раёне. Зроблены яны па заказу: сваю прадукцыю івянецкія ганчары адправілі ў Аўцюкі на Гомельшчыну. Тут, як вядома, з 7 па 9 ліпеня праходзіў першы ўсебеларускі фестываль народнага гумару. Славутым майстрам з Валожыншчыны прапанавалі паказаць выробленую прадукцыю ў своеасаблівым «горадзе майстроў» на выстаўцы-продажы таго, чаго ў краме не знойдзеш. А дванаццаць кубкаў-смяшынак «Напіся не абліся» ўручаны гасцям і пераможцам розных конкурсаў аўцюкоўскага фестывалю.

**(«Рэгіянальная газета», №12, 1995).**

## «Сапраўдная незалежнасць нас не абміне...»

«...Людзям неабходна растлумачыць, што свой лёс трэба браць у свае рукі. На жаль, мы ўсё яшчэ не маем сапраўднай незалежнасці. У нас яна, так бы мовіць, толькі прызнаная. Зараз мы ідзём па шляху вернападданства Расіі. Але я ўпэўнены, што ўсё ж сапраўдная незалежнасць нас не абміне. Таму што большасць моладзі настроена патрыятычна».

**(З інтэрв'ю Станіслава Шушкевіча газеце «Свабодныя прафсаюзы», № 30(69), 1995).**

## Нігілізм і нацыяналізм

«...Нацыянальны нігілізм, хай будзе гэта ў выглядзе «саўковага» інтэрнацыяналізму або ў «славянска-саборнай» форме непрызнання беларусаў і ўкраінцаў самастойнымі, асобнымі ад рускай, нацыямі, па вялікаму рахунку, ёсць тое ж самае, што і нацыяналізм.»

**(Газета «Грамадзянін», спецвыпуск, 1995).**

## Слава Грунвальда будзе жыць у сэрцах беларусаў!

«Гэта прыгожая маляўнічая дзея быццам бы перанесла ўсіх гледачоў на 585 гадоў назад, у той драматычны і слаўны дзень, калі нашыя мужныя продкі ў крывавай бітве разбілі жалезнае войска агрэсіўных тэўтонаў. Велічна ішлі славянскія воі ў кальчугах і шлемах, скрыжоўваліся мячы ў паядынках, луналі ў небе баявыя сцягі Вялікага Княства Літоўскага...

Так прайшло днямі дзякуючы намаганням энтузіястаў у Менску, на беразе Свіслачы ля Палаца дзяцей і моладзі, свята ў гонар чарговых угодкаў Грунвальдскай бітвы. Тыя, хто прыйшоў на яго, змаглі пачуць песні вандроўных бардаў, убачыць высакародных дам ва ўбранні сярэднявечча і нават самога караля. Шмат намаганняў для арганізацыі гэтага свята, да якога ніяк не дапасуецца казённае слова «мерапрыемства», прыклалі сябры аргкамітэта, які складаўся са шчырых прыхільнікаў беларушчыны, прадстаўнікі рыцарскага клуба «Сэрца дракона», артысты тэатра імя Янкі Купалы і іншых творчых калектываў.

Шкада толькі, што з вялікай насцярожанасцю паставіліся да гэтай ініцыятывы нашы афіцыйныя ўлады. Аргкамітэт планаваў значна шырэйшую праграму, але не атрымаў адпаведнага дазволу. Проста дзівішся, як палохаюць нашае чыноўніцтва любыя праявы здаровага нацыянальнага духу, гістарычнай самасвядомасці народа. Нешта падобнае назіралася падчас святкавання ўгодкаў Аршанскай бітвы. Дапусцім, можна яшчэ неяк зразумець, што тая падзея выклікае дваістыя эмоцыі ў нашых «інтэрнацыяналістаў»: усё ж славяне змагаліся супраць славян... Але ж Грунвальд, як і Вялікая Айчынная вайна, — яскравы прыклад яднання славянскіх народаў у імя перамогі над агульным ворагам. Міжволі прыходзіш да высновы, што гістарычная адукацыя большасці нашага чыноўніцтва абмяжоўваецца пастулатамі «Кароткага курса».

...Можна, вядома, адмяніць гістарычную сімволіку, забараніць святкаванне славутай падзеі. Але саму гэту падзею ўжо не закрэсліш...»

**(«Сталіца», № 29(35), 1995).**

## Залаты медаль

«...У Ляхавічах жыве дзевяцікласнік школы-гімназіі Дзмітрый Круглей, які займаецца ў народнай студыі выяўленчага мастацтва «Апалон»... Менавіта ён — адзіны беларус, які заваяваў залаты медаль у сусветным конкурсе, што праводзіць Японская акадэмія мастацтваў сумесна з ЮНЕСКА раз у сем гадоў. На гэты раз у конкурсе прынялі ўдзел мастакі з 200 краінаў свету, аднак Дзмітрый быў першым. А называецца ягоная работа «Чалавек і Сусвет», якая надзвычай вобразна і глыбінна перадае арыгінальнасць светапогляду юнага мастака».

**(«Дзеці і мы», № 14(98), 1995).**

## Патрабуецца Закон

«Чаму ж так вольна на Берасцейшчыне, ды і па ўсёй рэспубліцы пачуваюцца госці з Каўказа, іншых рэгіёнаў? А таму, што няма ў Беларусі Закона кантролю за замежнымі грамадзянамі!»

**(«Брестский курьер», № 29(229), 1995).**

*У сусвеце*

## Канадскі атлас

**P.R.Magocsi, Historical Atlas of Central Europe, Toronto, 1993**

Універсітэтам у Таронта выдадзены «Гістарычны атлас Цэнтральнай і Усходняй Еўропы». Яго аўтар — прафесар Таронцкага універсітэта, кіраўнік Мультыкультуральнага гістарычнага таварыства Антарыо Поль Робэрт Мэгоцы — гісторык, выдатны знаўца гісторыі Усходняй Еўропы, у сваіх працах абараняе малыя еўрапейскія народы.

Атлас прадстаўляе чытачу падзеі згаданай у яго назве часткі кантынента ад V стагоддзя да 1992 года. Геаграфічная праца прафесара Мэгоцы ўключае тэрыторыю ад Урала да паўночна-ўсходняй Італіі, Аўстрыю і ўсходнюю частку Нямеччыны. Навуковая праца адлюстроўвае не толькі палітычныя і адміністрацыйныя змены, але і паказвае таксама мноства дробных падзеяў, эканамічную дыферэнцыяцыю рэгіёнаў, арганізацыйныя структуры цэркваў, сістэмы школьніцтва, узаемныя ўплывы культур, дэмаграфічныя змены ды працэсы міграцыі.

Жадаючы прааналізаваць характар і асаблівасці атласа, разгледзім некалькі мап, якія датычаць падзеяў на беларускіх землях і спраў усходняй царквы.

Мапа, што прадстаўляе размяшчэнне плямён ва Усходняй Еўропе, утрымлівае дадзеныя аб тэрыторыях, заселеных дрыгавічамі, крывічамі і радзімічамі — народнасцямі, якія далі пачатак беларускаму этнасу. На схеме, што датычыць IX стагоддзя, прадстаўлены абшар вялікамараўскай дзяржавы з Кракавам і Пшэмысьлем, на якім пачалося ўжыванне кірыліцы на тэрыторыі цяперашняй Польшчы.

Чарговая мапа прадстаўляе дзяржаўныя межы сярэдзіны XI стагоддзя. Упершыню ў такім прэстыжным выданні разглядаецца тэрытарыяльнае пашырэнне Полацкага, Тураўскага і Смаленскага княстваў. Да таго ж П.Р.Мэгоцы адносіць Палессе XIII стагоддзя да Турава-Пінскай зямлі. Здзіўляе толькі змяшчэнне на палітычнай мапе гэтага перыяду побач з назвамі ў мове арыгіналу назваў у мове літоўскай, напрыклад Пінск — Пінскас, Кіеў — Кіевс. У XIII-XIV стагоддзях сучасныя літоўскія назвы гэтых мясцовасцяў не ўжываліся, а Вялікае Княства Літоўскае не было выключна літоўскім у цяперашнім разуменні гэтага слова.

Шмат цікавай інфармацыі змяшчае мапа гандлёвых шляхоў сярэдзіны XV стагоддзя. З яе вынікае, што праз тэрыторыю сучаснай Беларусі праходзілі важныя шляхі на Усход і на Захад: з Масквы праз Смаленск, Віцебск і Полацк да Балтыкі ды з Масквы праз Смаленск, Барысаў, Менск (ці Вільню) да Гародні. Праўда, выклікае сумлеў значэнне шляхоў з поўдня на поўнач. Аўтар працы — адзіны з вядомых мне гісторыкаў, які падае шлях з Кіева да Смаленска ўздоўж Дняпра, абмінаючы лакальныя беларускія адгалінаванні галоўнай дарогі, што злучала Чорнае мора з Балтыйскім. З беларускіх земляў экспартаваліся не толькі мёд і воск, як пазначана на мапе. У XV-XVI стагоддзях з гэтай часткі ВКЛ вывозілі таксама збожжа, скуры, свойскую жывёлу.

Для даследчыкаў гісторыі хрысціянства ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе асабліва цікавымі будуць дзве мапы, што прадстаўляюць арганізацыйную структуру каталіцкай і праваслаўнай цэркваў у сярэдзіне XV і на пачатку XIX стагоддзя. На ёй пададзеныя гады паўстання сядзіб большасці дыяцэзіяў. У дачыненні да беларускіх земляў мапа, што прадстаўляе становішча ў XV стагоддзі, утрымлівае некалькі істотных памылак. Так, у той час не існавала праваслаўных дыяцэзіяў з сядзібамі ў Менску, Гародні і Вільні. Беларускія землі ўваходзілі ў склад кіеўскай мітрапалітарнай дыяцэзіі, архіепіскапства полацкага , а таксама епіскапатаў смаленскага, турава-пінскага ды ўладзімірска-берасцейскага. Падобныя недакладнасці сустракаюцца ў дачыненні і да іншых тэрыторый.

Больш дакладнай з'яўляецца мапа размяшчэння рэфармацкіх цэркваў у Цэнтральнай Еўропе XVI стагоддзя ды мапы раздзелу дыяцэзіяў каталіцкай, уніяцкай і праваслаўнай цэркваў у 1900 годзе. Гэтыя схемы, маючыя розныя ступені дакладнасці, — вынік даследавання гісторыі царквы ва Усходняй Еўропе. П.Р.Мэгоцы, працуючы над згаданымі тэмамі, быў змушаны абапірацца на ўжо існуючыя працы, якія далёкія ад дакладнага тлумачэння стану рэчаў.

Аб школьніцтве і культуры Цэнтральна-Усходняй Еўропы інфармуе мапа геаграфічнага размяшчэння універсітэтаў і друкарняў, выкананая метадам прасторава-храналагічным. Нават павярхоўны яе аналіз выяўляе значную дыспрапорцыю ў развіцці асветніцтва на тэрыторыі Чэхіі ды Польшчы ў параўнанні з балканскімі краінамі ці Украінай.

Вельмі цікавымі з'яўляюцца схемы змен дзяржаўных межаў у XIX і XX стагоддзях. У гэтай частцы атласа аўтар робіць спробу тлумачэння мноства праблем, напрыклад, размяшчэння нямецкага, яўрэйскага ды армянскага насельніцтва ў міжваенным часе. З даследаванняў П.Р.Мэгоцы вынікае, што найбольшы працэнт яўрэйскага насельніцтва быў у беларускіх гарадах (у Слоніме — 78 працэнтаў, у Бярэсці — 65,8, у Бабруйску — 60, у Гомелі — 56,4). Дыскусіі можа выклікаць разгляд мапы міграцыі пасля Другой сусветнай вайны. Пададзеныя ёй лічбы выклікаюць розныя ацэнкі гісторыкаў. Тым не менш добра, што ў атласе гэтая праблема разглядаецца...

Мноства гістарычных праблем атлас падае ў картаграфічнай форме, напрыклад, палітычныя змены пасля I і II сусветных войнаў. Памер закранутых у гэтай працы праблем і іх значэнне дазваляюць высока ацаніць працу амерыканскага гісторыка, нягледзячы на заўважаныя памылкі. Трэба таксама дадаць, што ўсе мапы маюць вопісы разгляданых на іх праблем і падзей. Ужыванне гэткай формы падання звестак асабліва каштоўнае, бо атлас адрасаваны чытачам, незнаёмым з гісторыяй Усходняй Еўропы. Карыстанне атласам робяць лягчэйшымі індэксы імёнаў і геаграфічных назваў ды бібліяграфія крыніц, якімі карыстаўся аўтар.

Згаданы атлас можна лічыць удалай спробай агульнага прадстаўлення ў форме мапаў гісторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Добра таксама, што яго аўтар — асоба не еўрапейскага паходжання, не ўцягнуты ў спрэчкі мясцовых гісторыкаў. Погляд з адлегласці на нашу гісторыю дадае даверу працы П.Р.Мэгоцы. Для беларусаў жа гэты Гістарычны атлас Цэнтральнай і Усходняй Еўропы мае асаблівае значэнне, бо ўпершыню англамоўныя чытачы атрымалі магчымасць знаёмства з гісторыяй нашага народа і яго дзяржавы. Беларусь, нават у час, калі яна знаходзілася ў межах іншых дзяржаў, не была аб'ектам выключна геаграфічным. Своеасаблівым падсумаваннем яе гісторыі, накрэсленай амерыканскім гісторыкам, стала з'яўленне на мапе Цэнтральна-Усходняй Еўропы ў 1992 годзе яе як незалежнай дзяржавы. Гэты факт пацвярджае: складаныя падзеі, што адбываліся ў гэтым рэгіёне свету, не знішчылі малыя народы. Паўстанне незалежных Македоніі, Эстоніі ці Беларусі — сведчанне гэтага.

**Антон МІРАНОВІЧ.**
(Беласток).
(Перадрук з альманаха «Białoruskie Zeszyty Historyczne», №2, 1995.)

## Якому ж народу служыў Міндоўг?

У вячэрнім выпуску навін у пачатку ліпеня сёлета на Беларускім тэлебачанні дыктарам (мне здаецца, гэта быў Алег Круглякоў) была зачытана інфармацыя аб падзеі, важнай у гісторыі беларускага народа, якую, аднак, святкаваў толькі жамойцкі (летувіскі) народ. У ёй, у прыватнасці, было сказана, што ў гэты дзень (6 ліпеня) Літва святкавала Дзень незалежнасці, калі першы і апошні кароль Вялікага Княства Літоўскага Міндаўгас у 1253 годзе прыняў карону ад Папы Рымскага і каталіцкую веру. Далей гаварылася, што гэтае свята праводзілася ва ўсіх гарадах Літвы. Былі ўзняты сцягі трох прыбалтыйскіх дзяржаў...

Спачатку падумалася, як магла інфармацыя такога роду пранікнуць на БТ? Многія ж, асабліва адукаваныя і культурныя ліцвіны(беларусы), ведаюць, што Вялікае Княства ў аснове сваёй (і з самага пачатку свайго ўтварэння) было найперш беларускай дзяржавай. Такая інфармацыя вельмі ж балюча б'е па нацыянальным гонары і годнасці нашага народа, прыніжае яго ў вачах Еўропы і свету. Дзіўна і прыкра чуць такое паведамленне (праўда, нічым істотным яно не адрознівалася ад папярэдняга, мінулагодняга) у беларускіх сродках масавай інфармацыі ўжо некалькі год запар без належнай ацэнкі гэтай падзеі з нашага боку. Акрамя таго, яна (інфармацыя) уводзіць у зман гледачоў БТ. Мяне нямала здзівіла і адначасова абурыла, як маглі людзі, адказныя за выпуск навін, прапусціць у тэлеэфір гэтыя, некалькі надзвычай шкодныя для нашай гістарычнай свядомасці радкі?!

На гэта можа быць толькі два адказы. Або гэтыя людзі не ведаюць ці слаба ведаюць праўдзівую гісторыю свайго народа. Або ўжо іншыя асобы, якія моцна ўплываюць на работу БТ, не зацікаўленыя, каб праўдзівая інфармацыя пра нашае гістарычнае мінулае трапіла да тэлегледача. Таму многія гістарычныя падзеі падаюцца на тэлебачанні ў не вельмі выгадным для нас асвятленні, скажона, фальсіфікавана. Або падобнай гістарычнай інфармацыі не даецца належнага, як у апошнім выпадку, каментара, што таксама прыносіць шкоду. Такім чынам, тэкст, зачытаны дыктарам 6 ліпеня гэтага года, павінен быў мець належны каментар, ацэнку, якія б не супярэчылі праўдзіваму погляду на ВКЛ як на славянскую (беларускую ў аснове сваёй) дзяржаву. Пранікненне ў тэлеэфір інфармацыі пра каранацыю Міндоўга сведчыць пра тое, што на БТ нават адукаваныя і культурныя людзі не ведаюць або слаба ведаюць гісторыю Беларусі, а што тут гаварыць пра простых людзей?! Таму нам трэба пастаянна прапагандаваць беларускую гісторыю і культуру на старонках перыёдыкі. Па-першае, таму што навукова-папулярных выданняў па беларускай мінуўшчыне ў нас яшчэ мала. Па-другое, калі часам некаторыя перыядычныя выданні і змяшчаюць публікацыі па гісторыі Беларусі, то і яны нярэдка (асабліва гэта датычыць рэакцыйных, антыбеларускіх газет і часопісаў) скажаюць гістарычныя падзеі, факты і пазбаўлены гістарычнай праўды. Праўдзівую ж гісторыю Беларусі можна ўсё-такі пазнаць, толькі б было жаданне. Напрыклад, па першапачатковай гісторыі Новагародка (Навагрудка) і Вялікага Княства маецца шэраг прац. Асабліва ў гэтым плане шмат зрабіў беларускі вучоны М.І.Ермаловіч. Можна прывесці назвы некалькіх яго кніг: «Па слядах аднаго міфа» (Мн.,1989;1991), «Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды» (Мн.,1990).

Давайце ж пройдзем па старонках выданняў гэтага вучонага. У дарэвалюцыйнай расійскай і савецкай гісторыяграфіі Міндоўг звычайна падаецца як балцкі князь, які выражаў інтарэсы літоўскіх феадалаў. Аднак падобны погляд на Міндоўга знаходзіцца ў супярэчнасці з гістарычнымі фактамі.

Недавер да Міндоўга як да балцкага князя спачатку ўзнікае ўжо таму, што ён аказаўся на чале Новагародка, на чале славянскай дзяржавы — спачатку Новагародскага княства, а пасля Вялікага Княства Літоўскага. Калі б ВКЛ на самай справе было балцкім гаспадарствам, то і яго сталіца (Новагародак) была б балцкім местам. Яскравым прыкладам з'яўляецца Рыга, якая была на працягу стагоддзяў нямецкім горадам, хаця ў Лівоніі пераважала карэннае (латышскае) насельніцтва. Падобнае можна сказаць і пра Канстанцінопаль, які праз некаторы час пасля захопу яго туркамі ператварыўся ў тыповы турэцкі горад і нават стаў называцца Стамбулам. Новагародак (Наваградак) жа заўсёды быў і застаўся славянскім (беларускім) местам.

Зразумець, чаму Міндоўг (дарэчы, у дакументах XIII ст. сустракаецца не толькі гэта форма імя, але і іншыя, напр., Мінда, Мендог, што можа ўжо сведчыць аб славянскім паходжанні князя, бо такія імёны былі вядомы славянам) аказаўся на чале праваслаўнага Новагародка, дапамагае вельмі важнае для нас адкрыццё М.Ермаловіча, што старажытная летапісная Літва знаходзілася не на тэрыторыі сучаснай Жамойці(так званай Аўкштайціі),а на абшарах Заходняй Беларусі, у Верхнім Панямонні: прыблізна паміж Маладзечнам і Слонімам з поўначы на поўдзень і Менскам і Навагрудкам з усходу на захад. Летапісная Літва, акружаная Полацкай, Тураўскай і Новагародскай землямі, з'яўлялася адной з гістарычных абласцей Беларусі Такое геаграфічнае становішча Літвы і вызначыла яе далейшы лёс. Паколькі Новагародскае княства к сярэдзіне XIII стагоддзя дасягнула высокага эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця, то яно і ўзяло на сябе ініцыятыву аб'яднання беларускіх княстваў, а таксама балцкіх земляў. Аднак на шляху ажыццяўлення аб'яднаўчай палітыкі Новагародскай дзяржавы перш за ўсё стаяла Літва, таму заваёва яе і была першым крокам у здзяйсненні гэтай палітыкі.

Суседняй Літвой валадарыў Міндоўг. Ён, паводле М.Ермаловіча, у летапісах і хроніках успамінаецца выключна як наёмнік. Так, гэты князь у 1219 г. дае абавязацельствы галіцка-валынскім князям ваяваць супраць палякаў, а ў 1237 г. па жаданні Данілы Галіцкага змагаецца супраць Кандрата Мазавецкага, у 1245 г. дапамагае таму ж Данілу Галіцкаму ў яго барацьбе са сваім супернікам. Дзесьці на мяжы 1245-1246 гадоў Міндоўг дапамагае куронам ваяваць супраць крыжакоў. Аднак пры аблозе крэпасці Амботэн ён пацярпеў паразу і яму давялося адступаць. Услед за ім гналіся крыжакі, уварваліся ў яго ўладанні і зрабілі там вялікія спусташэнні. (І ўсе ж горада, у якім абараняўся Міндоўг, ім не ўдалося ўзяць.) Гэта аслабіла пазіцыі князя ў Літве, што і выкарысталі праціўнікі і пачалі супраць яго барацьбу. Па ўсім відаць, Міндоўг пацярпеў паразу і быў выгнаны з Літвы. Ён вымушаны быў «з многімі сваімі баярамі» ўцякаць у суседні Новагародак. І гэта, больш за ўсё верагодна, так і было, бо ў летапісе сказана, што пазней Міндоўг выгнаў сваіх праціўнікаў з Літвы «враждбою... за ворожство с ними». У Новагародку ён быў прыязна сустрэты, ахрышчаны ў праваслаўную веру («Миндовг прия веру Христову от Востока со многими бояры», адзначае Густынскі летапіс пад 1246 г.) і абраны князем. Прыняцце хрысціянскай веры прышлым князем з Літвы ў той ці іншай славянскай вобласці з'яўлялася неабходнай умовай абрання яго князем. Напрыклад, Даўмонт стаў пскоўскім князем пасля таго, як быў ахрышчаны (або перахрышчаны, як мяркуе М.Ермаловіч) у праваслаўе. Таўцівіл стаў полацкім князем таксама пасля свайго хрышчэння ў праваслаўную веру.

Міндоўг, пакрыўджаны сваімі суайчыннікамі, добра ведаў Літву і хутчэй чым хто-небудзь іншы мог яе падпарадкаваць, заваяваць, што і было ім зроблена ў канцы 1248 або ў пачатку 1249 г. Ён выганяе сваіх праціўнікаў: «за ворожство с ними Литву зане поимана бе вся земля Литовская». І гэтыя словы летапісу могуць сведчыць толькі аб адным: Міндоўг перад гэтым ніякай часткай Літвы не валодаў і ўсю яе мог заваяваць толькі з Новагародка.

Аднак умацаванне Новагародка і заваяванне ім Літвы не адпавядала планам галіцка-валынскіх князёў: яны самі намерыліся далучыць да свайго княства беларускія землі. Тры іх паходы вымусілі Новагародак адмовіцца ад Літвы. Каб выратаваць неяк сваё становішча, Міндоўг заключае саюз з Ордэнам і прымае ў 1253 годзе ад Папы Рымскага каралеўскую карону і пераходзіць у каталіцтва. (Каралеўскі тытул прымае ў 1254 г. і Даніла Галіцкі, каб стабілізаваць становішча на заходніх межах Галіцка-Валынскага княства.)

Усё гэта выклікала незадаволенасць праваслаўнага Новагародка, што і прывяло за сабой пазбаўленне Міндоўга новагародскага пасаду. Яму давялося задаволіцца толькі роляй князя Літвы.

Нягледзячы на шэраг няўдач, Новагародак не адмаўляецца ад планаў заваявання Літвы. Для гэтага яму па-ранейшаму патрэбен быў князь-ліцвін, які б мог з'явіцца ў Літве як законны гаспадар. Таму Новагародак абірае сваім князем Міндоўгавага сына — праваслаўнага фанатыка Войшалка. Ён у 1263-1264 гадах пры дапамозе новагародскага і пінскага войска канчаткова заваёўвае Літву, а таксама Налышчаны і Дзяволтву (паўднёва-ўсходняя частка сучаснай Жамойці (Летувы)).

У святле вышэйсказанага становіцца ясным, што Міндоўг з'яўляўся перш за ўсё новагародскім, беларускім князем, і гістарычныя падзеі, звязаныя з асобай гэтага чалавека (у прыватнасці, яго каранацыя ў 1253 г. у Новагародку), павінны найперш адзначацца нашым народам і нашай краінай, а не чужымі. На гэта ў іх няма гістарычных падстаў. Пры Міндоўгу ж былі закладзены першыя цагліны ў падмурак беларускай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага.

Вывучэнне праўдзівай гісторыі Беларусі ўзбройвае наш народ гістарычнымі ведамі, дзякуючы якім ён усведамляе сябе дзяржаўным народам з высокаразвітымі нацыянальнай свядомасцю, годнасцю і гонарам. А такі народ будзе ўвесь час імкнуцца да ўмацавання сваёй дзяржаўнасці — зарукі яго неўміручасці.

**Анатоль ЛІТВІНОВІЧ.**

Вучымся

*Культура мовы*

# Пра Вадаліў і вадалей

У агульнавядомым даведніку — БелСЭ чытаем: *Вадаліў* (лац. Aquarius), адно з 12 сузор'яў задыяка. Тут для называння сузор'я ўжытая традыцыйная беларуская форма: менавіта складанае ўтварэнне на *-іў* з асновай назоўніка *вада* й дзеяслова *ліць* — вольны пераклад лацінскага тэрміна — фіксавалася з разгляданаю семантыкай лексікаграфічнымі працамі да 1962 года. Прыгадайма: лексема 'вадаліў' ('ліў' — нульсуфіксальны тып утварэння) была замацаваная ў значэнні «адно з сузор'яў» у навуковай тэрміналогіі 20-х гадоў (БНТ. В.3. Геаграфічныя і касмаграфічныя тэрміны і назвы нябесных цел. Мн., 1923; М.Байкоў і С.Некрашэвіч. Беларуска-расійскі слоўнік. Мн., 1926). У аўтарытэтным расійска-беларускім слоўніку 1928 года пазначана: *Водолей — вадаліў* (заўважым адно, што тут аўтары, памянёныя Байкоў і Некрашэвіч, не засведчылі наяўнасці некалькіх значэнняў расійскай лексемы 'водолей'). А ўжо ў «Руска-беларускім слоўніку» 1953 года слоўнікавыя артыкулы распісаныя дэталёва:

**Водолей** 1. (рабочий) вадаліў, -ліва м; 2. перен. пустаслоў, -лова м.

**Водолей** астр. Вадаліў, -ліва м.

Але традыцыйнае астранамічнае значэнне беларускага вадаліў ужо не фіксуецца, на дзіва, у «Беларуска-рускім слоўніку» 1962 года ( Вадалей м.астр. Водолей). Вось жа, беларускаму «вадаліў», паводле ТСБМ (1977), уласцівыя 2 значэнні: 1)рабочы, які вылівае або адпампоўвае ваду, 2) стараста суднавых рабочых, старшы рабочы на баржы. Дарэчы дадаць, што менавіта гэтыя значэнні мае расійскае 'водолив'. Навідавоку выраўноўванне значэнняў лексемаў 'вадаліў' і 'водолив'. Большае семантычнае поле беларускага 'вадаліў' у прыраўнанні з расійскім 'водолив' змяншаецца аўтарамі перакладных і тлумачальнага акадэмічных слоўнікаў.

Але нялішне будзе прааналізаваць лексему 'вадалей', якая зафіксаваная, дарэчы, у ТСБМ з адзіным значэннем 'пра таго, хто многа, але беззмястоўна піша, гаворыць'. Гэткага тыпу (з суфіксам -ей (-эй) аддзеяслоўныя назоўнікі бываюць асабовыя й неасабовыя (П.Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. Афіксальныя назоўнікі. Мн., 1977). Асабовыя назоўнікі абазначаюць асобаў паводле іхняй схільнасці да адпаведнага дзеяння, часта з экспрэсіяй непахвальнасці ( як і 'вадалей' ): маней 'хлус' (Ф.Янкоўскі. Дыялектны слоўнік-1), целяпей 'маруда, мяла' (дыялектны слоўнік Зэльвеншчыны), махляваць, махалей 'ілгун' (дыялектны слоўнік Магілёўшчыны). Гэты тып словаўтварэння рэгіянальны (берасцейскія, гарадзенскія, магілёўскія гаворкі) і прадуктыўны. Уяўляецца, што ўжыванне слова «вадалей» дамэтнае ў літаратурнай мове ў разгледжаным значэнні як адзінкі з размоўным статусам, якая ўваходзіць у сінанімічны рад з лексемай «пустаслоў».

А што да назову сузор'я, дык тут, пэўне, служыцьме «вадаліў». Між іншым, навачаснае слоўнікавае абцінанне семантыкі гэтага слова апраўдана ігнаруецца ў выданнях «Беларускай Энцыклапедыі»: «Вадаліў» (сузор'е) ва ўжо адзначанай шматтомнай БелСЭ, у календарах апошніх гадоў. Таму заканамерныя спадзяванні на скорае папраўленне ў акадэмічных слоўніках, найдаступных сёння для карыстальнікаў мовы. Ці ж не прыспеў час пайсці тут за традыцыяй, улічыць клопат і рупнасць парадкавальнікаў беларушчыны, мянуючы задыякальнае сузор'е Вадалівам?

**Юрась БУШЛЯКОЎ.**

*Папытай у кнігарні*

## Маленькі чалавек у вялікім свеце




Добрая дзіцячая кніжка — гэта заўсёды свята. А калі кніжка яшчэ беларуская, і нават напісаная ў духу Адраджэння — гэта падзея. Кніжка Алеся Бадака «Маленькі чалавек у вялікім свеце» — менавіта падзея. Як вызначыў аўтар у падзагалоўку, яго твор — «для бацькоў, дзядуль, бабуль і выхавацеляў дзіцячых садкоў». «Кніга, якую вы, шаноўныя чытачы, зараз трымаеце ў сваіх руках, гэта спроба дапамагчы бацькам, а таксама выхавацелям дзіцячых садкоў на аснове вершаў, апавяданняў павесці з дзецьмі шчырую размову пра агульначалавечыя каштоўнасці: любоў да Радзімы і павагу да старэйшых, пра дабрыню, ветлівасць і сяброўства, пра тое, чаму трэба берагчы прыроду, любіць усё жывое», — так піша Алесь Бадак у аўтарскай прадмове.

Сапраўды, шчырая інтанацыя характэрная для кнігі. З маленькімі суразмоўцамі аўтар гаворыць, як іх добры сябра: «Ты яшчэ маленькі, і пакуль вельмі мала чаго пабачыў у сваім жыцці. Ты яшчэ нават і не здагадваешся, якая вялікая і прыгожая твая Радзіма — Беларусь. Вялікая-вялікая, прыгожая-прыгожая! І столькі ў ёй ёсць цікавага, незвычайнага, нават казачнага!» — гэта словы першага раздзела кніжкі. Сапраўды, з прачытанага дзіця ўсвядоміць сябе прыналежным да роднай Беларусі, і, можа быць, з гэтага пачнецца выхаванне нацыянальнай свядомасці асобы, патрыёта сваёй Бацькаўшчыны.

У кожным раздзеле, а ўсяго іх адзінаццаць, акрамя аўтарскай прадмовы, багата вершаў, казак, загадак, апавяданняў. Усё гэта таксама належыць пяру аўтара кнігі. Таму, мабыць, кніга атрымалася цэласная, усе творы ў ёй — на адным, досыць высокім узроўні. Мастацкі тэкст перамяжаецца заданнямі для дзяцей, выкананне якіх мусіць дапамагчы засвоіць прачытанае.

Выданне рэкамендавана да друку навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Прадмову да яго напісаў паэт Віктар Шніп. Апошнія радкі гэтай прадмовы хочацца прывесці: «Алесь Бадак не складальнік зборніка для дашкалят, а аўтар кнігі. Кнігі, якая на сённяшні дзень самая патрэбная і карысная ў справе Адраджэння. Дай Бог і надалей аўтару «Маленькага чалавека ў вялікім свеце» пісаць цудоўныя творы для беларускіх дзетак».

Застаецца дадаць, што наклад кнігі ўсяго 3000 паасобнікаў, і парэкамендаваць чытачам «Нашага слова» пастарацца набыць яе для сваіх дзетак.

**Л.Ш.**

ACADEMIA «NS»

*Гісторыя моваў на Беларусі*

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

*«Воженъ былъ пред царе и велм(о)жи для правды еу(а)глской, и вызналъ еи статечне: Быль насмеван для веры православной, лжен, безчещен, шарпан, от суду до суду, з турмы до турмы, през целыи два роки якъ злочинца який поволокан».*

**Мялецій СМАТРЫЦКІ. Казанне пахавальнае (на смерць Лявонція Карповіча).**



**Кірыліцкае** кнігадрукаванне пасля Скарыны працягвалі яго бліжэйшыя паплечнікі і паслядоўнікі Сымон Будны (у Нясвіжы) і Васіль Цяпінскі (у маёнтку Цяпіна, цяпер Чашніцкі р-н Віцебскай вобл.). У другой палове XVI ст. у Заблудаве (каля Беластока) наладзілі друкарню Іван Фёдараў (Федаровіч) і Пётр Мсціславец, якія ўцяклі з Масквы. Вядомы палітычны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага Васіль Гарабурда ды купцы браты Кузьма і Лукаш Мамонічы адкрылі першую **брацкую** праваслаўную друкарню ў Вільні. Брацтвы заснавалі таксама друкарні ў Еўі (цяпер Веві у Літоўскай рэспубліцы) і ў Куцейне (каля Оршы). З брацтвамі супрацоўнічалі і перасоўныя друкарні (напрыклад, друкарня Спірыдона Собаля).

Пасля наступлення крызісу ў брацкім кнігадрукаванні ў Вялікім Княстве Літоўскім з 2-й паловы XVII ст. пачынае развівацца **уніяцкае** кнігадрукаванне. З Вільні ў Супрасль (пад Беласток) пераязджае друкарня, якая атрымлівае права **манапольнага выпуску уніяцкай літургічнай літаратуры**. **У XVIII** ст. Магілёўская брацкая, Гарадзенская каралеўская, Супрасльская і Троіцкая Віленская друкарні пачынаюць друкаваць літаратуру для **расійскіх раскольнікаў-старавераў, якія, ратуючыся ад праследаванняў у сябе на радзіме, масава перасяляліся ў Вялікае Княства Літоўскае**.

Рэлігійная барацьба набыла вастрыню ў княстве пасля выхаду ў свет у 1577 годзе (г.зн. пасля прыбыцця ў ВКЛ езуітаў і пачатку іх змагання супраць Рэфармацыі) кнігі вядомага езуіта, заснавальніка Віленскай акадэміі (пазней — універсітэт) Пятра Скаргі «Аб адзінстве Божай царквы пад адзіным пастырам». (Кніга была выдадзена на польскай мове ў друкарні магната Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі, дзейнасць якога пагібельна адбілася на лёсе старабеларускай мовы.) У гэтай кнізе, адрасаванай вядомаму апекуну праваслаўнай царквы на Беларусі і Украіне князю Канстанціну Астрожскаму, акрамя ганьбы праваслаўю, меўся зварот да гэтага князя з просьбай падтрымаць правядзенне царкоўнай уніі і такім чынам умацаваць рэлігійныя і палітычныя пазіцыі Рыма ў Княстве. Сваім выданнем Скарга не столькі пасягнуў на аўтарытэт праваслаўнай царквы, колькі на права нацыянальнай самабытнасці праваслаўнага насельніцтва Княства. Кніга выклікала буру ў праваслаўным лагеры. Тыраж быў вельмі хутка скуплены багатымі праваслаўнымі і, як сцвярджае аўтар, знішчаны.

Пісьмовыя выступленні прыхільнікаў і праціўнікаў царкоўнай уніі і стварылі новую плынь літаратуры, якую назвалі **палемічнай**. Значную частку друкаванай канфесійнай літаратуры канца XVI-XVII стст. складалі таксама зборнікі пропаведзяў і павучэнняў.

Важнейшыя выданні таго часу — «Катэхізіс» (Вільня,1585), «Казанне Кірылы» Сцяпана Зізанія (Вільня,1596), «Казанне двое» Лявонція Карповіча (Еўе,1616), « Евангелле вучыцельнае» (Еўе, 1616), «Кінавіён» (Еўе,1618), «Казанне аб сямі тайнах царкоўных» (Вільня,1620), «Казанне пахавальнае» Мялеція Сматрыцкага (Вільня,1620), «Паўустаў» (Вільня,1622), «Бяседы Макарыя» (Вільня,1627), «Гісторыя аб Варлааме і Іясафе» (Куцейна,1637) і «Дзідаскалія» (Куцейна, 1653). Першаступеннае значэнне для гісторыі беларускай мовы маюць арыгінальныя кнігі «Казанне пахавальнае», «Казанне двое», «Навука аб сямі тайнах», «Дзідаскалія»: іх аўтары, будучы незалежнымі ад іншых тэкстаў, найбольш **поўна выявілі на пісьме тыя моўныя рысы, якія ім уяўляліся як сродкі літаратурнай мовы**. Каштоўнасць жа перакладаных твораў у тым, што ў іншых усходнеславянскіх друкарнях яны выдаваліся на царкоўнаславянскай мове, і супастаўленнем беларускіх і царкоўнаславянскіх тэкстаў можна выявіць важнейшыя спецыфічныя рысы тагачаснай літаратурнай мовы.

Сярод згаданых твораў асобнае месца займаюць «Казанне Кірылы» Сцяпана Зізанія і «Казанне пахавальнае» Мялеція Сматрыцкага, у першым з якіх беларускі тэкст змешчаныпаралельна з польскім, другі ж адначасова быў выдадзены на польскай мове. Улічваючы пашырэнне ўжывання польскай мовы ў ВКЛ пасля Люблінскай уніі (і ўзмацненне ўздзеяння яе на беларускую), цікава вызначыць розніцу паміж згаданымі мовамі ў гэты час. Супаставім наступныя ўрыўкі «Казання Кірылы» Сцяпана Зізанія:

«Стережете абы васъ кто не здрадил. абовем много их прійдет во имя мое мовячи я естем х(ристо)с, и многих прелестят. а будете слышати о войнах и отповеди военные, смотрете а лякайтеся. пристоит бовем всему тому быти, але не тогды еще есть кончина, абовем повстанет народ на народ, и крулевство на крулевство, и будут голоды и мори и трясене по местом, а то все початок болестем» — «Strezezcie aby was kto nie zdradził, abowiem wiele ich przyj dzie w imię moie mowiąc: ia iestem Chrystus, y wiele ich zwiodą, i będziecie słyszeć o woynach, y opowiedzi woienne, patrzcie a nie lekaycie sye, musi bowiem wszytko to być, ale nie iuz będzie koniec, abowiem powstanie narod na narod, y krolestwo na krolestwo, y będą głody, y mory, y tresienie po miastom, a to wszystko poczatek bolesciam». Параўнанне паказвае, што некаторыя словы і формы польскага паходжання тагачасныя беларускія кніжнікі ўжо не лічылі чужымі.

Правапіс друкаваных рэлігійных кніг натуральна пераймае прыёмы, выпрацаваныя рукапісным пісьмом. У цэлым жа арфаграфія разглядаемых выданняў з'яўляецца прыкметным адступленнем ад тых зрухаў у бок жывога вымаўлення, што былі дасягнуты пісцамі рукапісаў. Асноўныя рысы гэтага вымаўлення (аканне-яканне, дзеканне-цеканне, падваенне зычных у становішчы паміж галоснымі, пераход *л* у *ў*, што ў рукапісах дасягала ўзроўню пэўнай нормы) у друкаваных кнігах адлюстраваны толькі адзінкавымі выпадковымі памылкамі друку. Толькі ў «Навуцы аб сямі тайнах царкоўных» і «Гісторыі аб Варлааме і Іясафе» прыкметная тэндэнцыя да фанетызацыі пісьма: тут даволі часта сустракаюцца напісанні з зацвярдзелымі зычнымі *(грешыти, прыняти, будучы, мовячы, чынечы)*. Гук *г* у пазычаных словах у многіх кнігах перадаецца выпрацаваным у рукапісах спалучэннем *кг*, але ў «Паўуставе», «Бяседах Макарыя» і «Дзідаскаліі» для гэтай мэты ўжываецца новая літара **Г**: аллиГорічный, вилГотный, Гвалть, Гмахь (нагадаем спробы вярнуць яе ў беларускае пісьмо ў 20—30 гады XX ст.). У беларускім пісьме папярэдняга часу для перадачы гуку *ё* было спалучэнне *іо*, якое ў друкаваных кнігах выкарыстоўваецца больш шырока *(астроліокгь, маліованый, ліохь, сріодокь)*, вельмі шырока ўжываецца таксама літара *амега*. Цікавай асаблівасцю друкаваных выданняў з'яўляецца абазначэнне націску ў словах, дзякуючы чаму старадрукі з'яўляюцца каштоўнымі крыніцамі для вывучэння акцэнтуацыі старабеларускай мовы, якая значна адрозніваецца ад сучаснай. Прыкладам, словы *бе́седа, де́креть, за́гадка, за́конь* маюць націск на першым складзе. У марфалогіі друкаваных кніг побач з замацаваннем некаторых норм жывой мовы (формы назоўнікаў давальнага склону адзіночнага ліку тыпу *вечерови, голосови, довтіпови*, назоўнага склону множнага ліку тыпу *докторове злодееве, кролеве,* творнага склону адзіночнага ліку тыпу *поволностю, повестю, тяжкостю* і інш.) набылі значэнне нормы архаічныя формы дзеясловаў 3-й асобы адзіночнага ліку на *-тъ* (цвёрдае) тыпу *живетъ, знаетъ, мовитъ,* форм злітнага перфекту польскага паходжання тыпу *взялем, утратилем, взялесь, казалесь, мовилисмо, пришлисмо.* Друкаваныя кнігі вылучаюцца шырокім ужываннем абстрактнай лексікі, асабліва з суфіксам *-ость (срокгость, спросность, гойность)*. Удзельная вага такіх слоў значна павялічваецца за кошт царкоўнаславянізмаў. **Аднак у параўнанні з маскоўскімі выданнямі ў беларускіх выразна бачная і народная моўная аснова**, што відаць з параўнання наступных урыўкаў.

Куцейнскае выданне:

«придалося двох мужей, в ошарпаном и шпетном оденью, на твари худых и барзо бледых поткати: Кролеви теды ведомо было, иж з оутруженя телеснаго и з працы живота богу посвечоного тело свое так высушили».

Маскоўскае выданне:

«и срете два мужа, раздранными и калными ризами облочена, худа же и бледа лицем суща: Сія же позна царь, изнурением телесе и постническими поты плоть истончену имевша.»



Цётка Тэкля.
Фотаздымак Анатоля Каляды.

Варшава 22.05.1995г.

POLSKIE RADIO S.A.
PROGRAM V

Al. Niepodległości 77/85
00-950 Warszawa
tel. 45 93 03
fax 44 41 23

Шаноўная Рэдакцыя Газэты "НАША СЛОВА" !

Журналісты Беларускай Рэдакцыі Польскага Радыё выказваюць словы глыбокай удзячнасьці за зьмяшчэньне інфармацыі пра час і хвалі нашых перадачаў у Вашай Газэце. Дзякуючы гэтаму многія жыхары Беларусі - Вашыя чытачы - даведаліся пра нашае існаваньне і, магчыма, сталіся нашымі слухачамі. А ў кожным выпадку, даведаліся, што могуць шукаць у эфіры беларускае слова з Варшавы.

Спадзяемся на далейшае супрацоўніцтва.

З пашанай
за Беларускую Рэдакцыю
Польскага Радыё -
Яраслаў Іванюк
- Яраслаў ІВАНЮК

Міжнародны камітэт беларусістаў разам з Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Францішка Скарыны шукаюць рэферэнта на вакантную пасаду малодшага навуковага супрацоўніка, які добра ведае беларускую і англійскую мовы, валодае кампутарам (ці машынапісам). Сярод канкурэнтаў хочацца выбраць чалавека, шчыра зацікаўленага ў пашырэнні беларускай культуры ў свеце. тэл. 20-76-04 .

## Творчасць нашых чытачоў

# *Святое*

У глыб вякоў, у даўнюю даўніну
Пайшлі далёка нашы карані,
Мацуем працай мы сваю Айчыну
І славім тых, хто волю бараніў.

З душой адкрытай перад светам цэлым
Шукаем мы жыццёвы свой прасцяг,
Над намі рэе бел-чырвона-белы,
Як сімвал волі, старажытны сцяг.

Дай, Божа, шчасця мірнаму народу,
Ад цёмных сіл ратуй і ахавай!
Няхай жыве, квітнее год ад году
Радзіма наша — беларускі край!

**Валянцін ДЗЯДЗЮК,**
**настаўнік.**
в.Дамавіцк, Чэрвеньшчына.

*Шаноўная рэдакцыя газеты «Наша слова»!*
*Віншую ўсіх Вас з Днём Незалежнасці Беларусі! Моцнага здароўя Вам, поспехаў у Вашай добрай справе!*
*Мікалай Волкаў.*
*-27.07.95г.*




# Язык як перац

Лезе (у вочы), як муха ў спасаўку.
Лье, як з вядра (як з цэбра).
Льецца, як бяроза.
Лёгка (рабіць, працаваць), як гуртам.
Лёгка (жыць), як у гурце.
Лёгка бяжыць (скача), як сарна.
Лёгка, як з радзінаю (раднёй).
Лёгка, як пяро (пярынку) спаліць.
Лёгкі, як матыль (матылёк).
Лёгкі, як папера.
Лёгкі, як птушка.
Лёгкі, як пух (пушынка).
Лёгкі, як пярынка.
Люд як шкло.
Лізнуў, як жалеза на марозе.
Ліпіць, як арэх на сухой галіне.
Ліхі, як сабака шалёны.
Ліхі, як скула.

## І смех і грэх

# *Пачутае «У Лявона»*

### Морж

— Шаноўныя заўсёднікі і госці шынка «У Лявона», — звяртаецца да прысутных адміністратар. — Хто з Вас зняў афішу вандроўнага звярынца, прашу вярнуць — за гэтую рэкламу нам плаціць грошы.

— Тую, дзе быў намаляваны морж? — удакладняе адна з наведвальніц.

— Так, так, тую.

— Яе забраў нейкі мужчына і сказаў, што шынок яшчэ паплаціцца за карыкатуру.

### Вярблюд

— Ты наскубла вярблюджай поўсці на світэр? — здзіўлена перапытвае сяброўку модна апранутая панянка.

— А мне асабіста вярблюд не спадабаўся. Я да яго не падыходзіла. Ён такі аблезлы і ўсё зубы скаліць...

— А ты хацела, каб у вярблюда была такая ўсмешка, як у Лёлі з суседняга століка?

### Насарог

У шынок заходзіць сталы наведвальнік. Ён абураны і злосна паўтарае:

— Не дарую, ніколі не дарую. Я падам на яго ў суд.

— Хто гэта цябе так дапяў? — пытаюцца сябры.

— Сусед.

— Што ён табе зрабіў?

— Назваў летась насарогам.

— І ты толькі цяпер абураешся?

— Бо толькі сёння я быў у звярынцы.

### Цар звяроў

— Ведаем, — прызнаецца сяброўцы дзяцюк пасля трэцяй чаркі, — я хачу быць, як леў...

— Як Леў Пятровіч з суседняга століка? Ён такі тоўсты...

— Не, як леў — цар звяроў...

— І ахвота табе ўсё жыццё сядзець у клетцы.

### Заяц

— О, лаўцы! — вітаюць бывальцы трох сяброў, якія заходзяць у шынок з заплечнікамі і стрэльбай. — Як прайшло паляванне?

— Ат, зжаліўся Бог. Аднаго зайца падстрэлілі.

— А хто?

— Утрох.

— А як жа вы яго будзеце дзяліць?

— Ды мы яго й не знайшлі.

### Камары

— Дык Вашыя бацькі паехалі ў госці і Вы засталіся адна ў кватэры?

— Каб жа адна — поўна камароў.

**Вырваныя лісткі з Чырвонай кнігі пазбіраў З.С.**

***

Чалавек прыехаў з Беларусі ў нямецкі горад і, заблудзіўшыся там, спытаў у першага сустрэчнага, як адшукаць дарогу да гатэля. Той згадзіўся правесці госця з-за мяжы і па дарозе спытаў:

— Адкуль Вы прыехалі?

— З Вайс Русланд! — Белая Русь.

— Белыя рускія? А чым яны розняцца ад проста рускіх?

Наш зямляк сумеўся: гэта ж трэба расказваць пра Вялікае Княства Літоўскае, пра войны з Масковіяй, пра еўрапейскую архітэктуру і магдэбургскае права беларускіх гарадоў, пра паўстанні — карацей, чытаць доўгую лекцыю. Таму ён вырашыў адказаць проста.

— Розніца відаць ужо з назвы. Мы — белыя.

Немец раптам зрабіўся сур'ёзным і сцішаным голасам сказаў:

— О, я вас разумею! Я і сам нядаўна пераехаў сюды з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі...

**Падслухаў У.П.**

## ПАРОДЫІ

*Георгій Юрчанка*

# Ганна Батый і Наталі Пятлюра

*Ў прастору*
*майстра стол плыве —*
*і ценяў бег ад абажура*
*(збягае пацуковы век...)—*
*спяшае з Кіева Пятлюра...*
**Міхась Стрыгалёў.**

Ярыла ў лютасці (пачуй!)
не шкадаваў яловых шышак.
Мне штосьць бружмеліла ўваччу,
калі прайшла Марына Мнішак.

Стрыбог праклыпаў па зямлі.
Квітучы парк гусцеў нанова.
Глядзела палка Наталі
(вы не забылі?) Ганчарова.

Ды мне была прыемней Керн,
яе запалі ў сэрца рысы.
За дальнім ясенем — павер!—
яшчэ дыміць Батыеў прысак.

Сыр-бор успыхнуў наваколі,
вынегa пелася ў раскошы.
Пярун набыць імкнуўся стол
і ўжо адлічваў майстру грошы

(лімон — шыкоўная цана),
ды той зірнуў чамусь пахмура.
Расла на градках бузіна,
пад Мінскам швэндаўся
Пятлюра...

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 2873

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 3970 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 31.07.1995 г. у 15 гадзін